Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

№ 2. Нядзеля, 25 сакавіка 1928 г. м. Вільня. Г. I.

# ГРАМАДЗЯНІН

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ.

Падпісная цана на 1 месяц 50 гр., на 2 мес. 1 зл. Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 4, тэл. 14-35.

АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ.

ОРГАН НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ.

## 25. IV—1918 г. — 25. IV—1928 г.

Сяньня споўнілася роўна 10 гадоў з таго мамэнту, як 25 сакавіка 1918 г. была абвешчана Радаю Беларускай Народнай Рэспублікі ў Менску незалежнасьць Беларусі.

Тутака мы ня будзем затрымлівацца над гэтым гістарычным фактам, як роўным чынам і над далейшым разьвіцьцем палітычных падзеяў, у выніку якіх Беларусь аказалася падзеленаю па дзьве часткі — Усходняю і Заходняю. Аб гэтым добра ведама кожнаму сьвядомаму беларусу. Нас цікавіць больш тое, чаму гэты гістарычны факт не зьдзейсьніўся, пазастаўшы толькі гістарычным дакумантам.

Хаця вельмі непрыемна і балесна для нацыянальнага пачуцьця лаезьне ў гэты ўрачысты дзень узварушваць нашыя хранічныя балячкі, але калі мы запраўды імкнемся да незалежнасьці, дык павінны сьмела глянуць праўдзе ў вочы.

Каб здабыць незалежнасьць, мала толькі абвясьціць яе на паперы. Яе трэба здабыць уласнымі рукамі, бо ніхто яе нам не падаруе. Але для гэтага трэба мець моц і волю да незалежнага жыцьця.

Кожны з незалежных народаў даходзіў да свае незалежнасьці не заўсёды шляхам аружнае барацьбы, якая часта не дасягае сваіх мэтаў, а цяжкаю працаю над узгадаваньнем сябе духова, фізычна, культурна і гаспадарча. Толькі гэтым шляхам выпрабляецца нацыянальная сьвядомасьць, еднасьць і моц, без чаго немагчыма дасягненьне найвышэйшых нацыянальных ідэалаў.

Нажаль мы гэтага не выявілі ў свой час і дзякуючы гэтаму аказаліся ў рашучы мамэнт, калі разьбіліся к йданы царскае няволі, непадгатаванымі, а дзеля гэтага і няздольнымі для барацьбы за сваю незалежнасьць.

Калі мы глянем на нашых суседзяў Палякаў, Ліцьвінаў, Латышоў і Эстонцаў, якія ужо карыстаюцца поўнаю незалежнасьцю, дык пабачым, што не адзіны факт развалу Расейскае Імпэрыі ці разгром Нямеччыны у сьвятовай вайне адыгралі рашучую ролю ў здабыцьці імі незалежнасьці. Гэныя народы вытрымалі аружны напор бальшавіцкіх хваляў з Усходу пры скрытай дапамозе немцаў дзякуючы нацыянальнай сьвядомасьці, еднасьці і гаспадарча-культурнай моцы.

Зусім інакш выглядае барацьба беларусаў за сваю незалежнасьць. Беларускі народ на чале з першым беларускім урадам не аказалі патрэбнага адпору сваім акупантам. У часе гэтай барацьбы акурат і выявілася нацыянальная непадгатаванасьць. Народ аднёсься зусім пасыўна да свайго лёсу. Ён не падтрымаў ні свайго першага зьезду, ні кангрэсу, ні свайго першага ураду у гэты гістарычны мамэнт. Лёзунг дзяржаўнае незалежнасьці, абвешчаны Радаю Беларускай Народнай Рэспублікі у Менску 25 сакавіка 1918 г., не захапіў сэрца народнае гушчы і не ператварыўся ў магутны чын, застаўшыся толькі як ідэал, як пуцяводная зорка для нацыянальнага імкненьня ў будучыне.

Дзеля гэтага няздзейсьненьне нацыянальнага ідэалу трэба шукаць ня толькі ў прычынах вонкавых, але роўным чынам і ў нас саміх.

Аднак-жа мусім сьцьвердзіць, што гэтыя 10 гадоў з часу абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі не прайшлі зусім бясплодна для справы

адраджэньня нашае Бацькаўшчыны. Раскіданая воляю лёсу па усім краям сьвета нашая інтэлігэнцыя усьведаміла іншыя народы, што Беларусь істнуе і мае нароўні з іншымі культурнымі народамі правы на незалежнасьць. Сыны нашае Бацькаўшчыны, прымушаныя шукаць працу ў іншых краёх сьвета, гэтак сама пранікліся ідэяй адраджэньня і лучацца ў нацыянальна-культурныя гурткі. Нацыянальная сьвядомасьць і культурнае разьвіцьце пазастаўшых на Бацькаўшчыне беларусаў за гэтыя дзесяць гадоў значна узрасьлі. Нажаль толькі нашая інтэлігэнцыя не заўсёды ішла па праўдзіловаму шляху для здзейсьненьня нацыянальных ідэалаў. Дзякуючы узаемнай барацьбе нашых павадыроў праца ў галіне нацыянальнага адраджэньня часта ішла не на карысьць, а на шкоду Народу.

Дык няхай будзе лепшым нашым пажаданьнем у гэты ўрачысты дзень сьвяткаваньня 10 угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі, каб спыніліся нарэшце ўсе нашыя ўзаемныя непаразуменьні і каб праца над нацыянальным адраджэньнем пайшла на карысьць Бацькаўшчыне!

# ЗА ТЫДЗЕНЬ.

У апошні час увага усей Эўропы і нават усяго сьвета зьвернута на нямецка-радавы канфлікт, выбухшы у зьвязку з арыштам бальшавікамі некалькіх нямецкіх інжэнэраў у Данецкім басэйну па абвінавачаньню ў „гаспадарчай контр-рэвалюцні". Праўда гэны канфлікт не паграджае ні вайною, як англійска-арабскі, ні якімі-небудзь паважнымі палітычнымі вынікамі. Аднакжа вельмі цікавы вось па якім матывам.

Увесь капіталістычны сьвет цікавіла пытаньне аб тым, ці можна прынамся гандляваць з бальшавікамі і наагул падтрымоўваць з імі гаспадарчыя зносіны. Нямеччына першаю рашыла спрабаваць гэтае, ведаючы добра варункі расейскага рынку. Пасьля Рапальскага палітычнага дагавору быў падпісаны ў Бэрліне нямецка-радавы гандлёвы дагавор, на які немцы пакладалі вельмі вялікія надзеі. Але гэныя надзеі не здзейсьніліся, што нарэшце немцы мусілі пажадаць перагляду і зьмены некатары параграфаў гэтага дагавору.

У пачатку нямецкія фінансістыя і прамыслоўцы вельмі горача узяліся за працу. Круп заняўся арганізацыяй ральніцтва па Украіні і поўночным Каўказе, Юнкерс—паветранага флёту, AEG (Агульна-Электрычнае Таварыства) горнай і электрычнай прамысловасьці і г. д. Але з часам Юнкерс павінен быў ліквідаваць свае прадпрыемствы у Расеі і са стратамі ўцякаць адтуль; Круп гэтак сама ледзьві трымаецца. AEG. яшчэ пакуль ня уцёк.

Справа ў тым, што бальшавікі зусім не зацікаўляны ў разьвіцьці гандлёвых зносінаў з заходнімі дзяржавамі, ў тым ліку і з сваім харусьнікам Нямеччынаю. Яны глядзяць на гандлёвыя дагаворы з капіталістычнымі дзяржавамі як на сродак атрымаць грашовую пазыку і вясьці камуністычную агітацыю ў гэтых дзяржавах. Падпісаўшы з немцамі гандлёвы дагавор, бальшавікі атрымалі дзьве доўгатэрміновыя таваровыя пазыкі, адну на 100 міл., а другую — 300 міл. мар. 60% гэтай пазыкі гарантаваны нямецкім урадам, бо інакш нямецкія прамыслоўцы і фінансістыя не згаджаліся рэялізаваць гэтай пазыкі. Немцы ў праве былі чакаць, што гэтая пазыка ўплыне на павялічэньне гандлёвага руху з Расеяй. Але выйшла наадварот. У бальшавікоў гэткая засада: яны больш угаджаюць тым дзяржавам, з якімі яшчэ не унармаваны палітычныя зносіны. Гэткім чынам, атрымаўшы ад немцаў грошы і нават не уласныя, а пазычаныя у Амэрыцы, бальшавікі скіравалі свае замаўленьні не да хаўруснае Нямеччыны, а да Амэрыкі, якая ня хоча з імі размаўляць і да Англіі. Вось некалькі лічбаў, паказваючых як ашукалі бальшавікі немцаў.

Пасьля 1925 г. вываз нямецкі да Расеі зьменшыўся з 172 міл. руб. да 188 міл. руб., у той час як расейскі вываз да Нямеччыны павялічыўся з 111 міл. да 167 міл. руб. Адначасова вываз з Амэрыкі да Расеі павялічыўся з 119 да 143 міл. руб. Бальшавікі бралі ад немцаў грошы і куплялі тавары за іх ня ў Нямеччыне, а у Амэрыцы і Англіі, каб перакапаць іх у карысьці гандлёвых зносінаў з камуністычнаю Расеяй. Гэта прымусіла немцаў пажадаць перагляду гандлёвага дагавору з бальшавікамі. У Бэрліне ужо распачаліся перагаворы з бальшавікамі, як раптам выбухла Данецкая бомба. Маскоўскія чакістыя „выкрылі нейкі загавор" у Данецкім басэйні, у выніку якога было арыштавана 6 галоўных інжэнэраў, каля 117 заграічных „спэцаў" (спэцыялістаў) і шмат расейскіх „спэцаў" і работнікаў. Усе яны абвінавачваюцца ў тым, што быццам знаходзіліся на службе заграічных капіталістаў, папярэдніх уласьнікаў гэтых прадпрыемстваў і займаліся псаваньнем машынаў, каб гэткім чынам падрываць савецкую гаспадарку.

Ня трэба быць вельмі дальнязоркім, каб ня бачыць бальшавіцкае праваканцы, да якой яны часта зьвяртаюцца, калі становіцца трудна. Цяпер Радавая Расея перажывае страшэнны гаспадарчы крызыс:

адчуваецца недахоп збожжа і поўная атсутнасьць грошаў—як вынік камуністычнае гаспадаркі. І вось, каб адвярнуць ад сябе ўвагу народу і скіраваць яе ў другі бок, чакістыя „выкрылі“ загавор, якія заўсёды робяцца па замаўленьню. Народу трэба было паказаць, што не радавая улада вінавата ў гаспадарчай анархіі, а быццам агэнты буржуеў, контр-рэвалюцыянэры, расейскія і нават чужаземныя „спэцы“. Што ад гэтага папсуюцца зносіны з іншымі дзяржавамі і яшчэ больш пагоршае гаспадарчая сытуацыя, аб гэтым бальшавікі не застанаўляюцца. Ім важна захаваць лішні дзень уладу.

Зусім зразумела, што немцы зарэагавалі на гэтае самымі рашучымі мерамі. Далейшыя гандлёвыя перагаворы былі спыняны. Нямецкі ўрад пажадаў звальненьня арыштаваных інжэнэраў; нямецкая прэса як ніколі да гэтай пары распачала паход проці бальшавікоў, паддаючы бязлітаснай крытыцы ненармальнасьць зносінаў з камуністычнаю Расеяй.

Бальшавікі заўважылі, што перахапілі праз край ў сваем нахальстве, што зрабілі абмылку. Ужо звольнілі двох галоўных інжэнэраў і мусіць звольняць і рэшту. Але ужо позна. Цяпер не направіш таго дрэннага уражэньня, якое гэтая правакацыя зрабіла на увесь акружаючы бальшавіцкаю Расею сьвет. Усе прыглядаліся, як удасца нямецкі вопыт супрацоўніцтва капіталістычнае гаспадаркі з камуністычнаю і вольнага гандлю з дзяржаўна-манапольным. І калі нават немцы пры усіх сваіх здольнасьцях не маглі паладзіць з бальшавікамі і прымушаны уцякаць з Расеі, дык які-ж сэнс Англіі зноў распачынаць сарваныя гандлёва-дыплёматычныя зносіны, ці Амэрыцы і Францыі падпісваць новыя гандлёвыя дагаворы. Вось дзеля чаго нямецка-радавы канфлікт мае агульнае значэньне, незалежна ад таго, чым бы ён ня кончыўся.

N.

## Канфэрэнцыя Літвінава з Штрэзэманам.

Заступнік камісара замежных справаў Літвінаў пры павароце з Жэнэвы да Масквы затрымаецца некалькі дзён у Бэрліне і спаткаецца з Штрэзэманам і канцлерам Марксам.

## Бальшавікі капітулююць перад немцамі.

Бэрлінскія газэты паведамляюць аб звальненьні бальшавікамі з пад арышту галоўных нямецкіх інжэнэраў Гольдштэйна і Вагнэра, арыштаваных у Данецкім басэйну. У палітычных бэрлінскіх колах лічаць, што гэтым крокам радавы ўрад даказвае сваё нехаценьне даводзіць справу да поўнага зрыву з Нямеччынаю. Але Нямеччына будзе лічыць канфлікт уладжаным толькі тады, калі будуць звольняны і рэшта арыштаваных нямецкіх інжэнэраў.

## Амэрыка проці вайны.

Прэзыдэнт Кулідж атрымаў заяву, маючую шмат подпісаў, з просьбаю тойчас распачаць перагаворы аб стварэньні агульнага міжнароднага хаўрусу проці вайны.

## Арышт 500 камуністаў ў Японіі.

У зьвязку з выкрыцьцем антыдзяржаўнай змовы ува ўсей Японіі арыштавана каля 500 камуністаў. Амаль ўсе яны былі звольняны і толькі застаўляны пад наглядам паліцыі.

## Растрэл 80 камуністаў у Кітаі.

У Уэндзе (правінцыя Сечуан) было арыштавана шмат вучняў, студэнтаў і вучцеляў сярэдніх і вышэйшых школаў за належнасьць іх да камуністычнае партыі. Усе гэтыя арыштаваныя лікам да 80 чалавек растрэляны.

# Апошнія навіны.

ПОЛЬШЧА.

## Сьліканьне Сойму на 27 сакавіка.

Прэзыдэнт Рэспублікі падпісаў дэкрэт аб скліканьні Сойму на дзень 27 сакавіка а 12 г. у салях Каралеўскага Замку. Пасьля прамовы Прэзыдэнта адбудзецца ў соймавай салі ўрачыстая прысяга, затым паседжаньне, адчыненае старэйшым па веку паслом. На гэтым паседжаньні будзе выбраны прэзыдыум новага Сойму.

## Польская нота Літве.

Міністар Заграничных Справаў выслаў Літве ноту, у якой паведамляе аб згодзе Польшчы на распачацьце перагавораў з Літвою у Кэнігзбэргу 30 сакавіка.

ЗАГРАНІЦАЮ.

## Нямецка-савецкі канфлікт.

Паводле вестак бэрлінскае прэсы нямецкі пасол у Маскве Брокдорф-Рантцаў меў новую нараду з Чычэрыным. Нямецкі ўрад жадае, каб савецкія ўлады дазволілі прадстаўніку нямецкага пасольства ці нямецкаму консулу ў Харкаве адведываць арыштаваных немцаў у турмах і каб савецкія улады дапусьцілі нямецкіх адвакатаў да абароны арыштаваных перад судом. Але Чычэрын катэгарычна адмовіў у гэтым, павалуючыся на савецкія законы, паводле якіх да заканчэньня сьледства ніхто ня можа адведываць арыштаваных.

ЛІТВА.

## Вальдэмарас на чале дэлегацыі ў Кэнігзбэргу.

У адказ на ноту Польскага Ўраду ад 15 сакавіка літоўскі урад паведаміў праз свае пасольства у Бэрліне польскі урад, што на чале літоўскай дэлегацыі для перагавораў з Польшчаю у Кэнігзбэргу будзе стаяць прэм'ер Валдэмарас.

## Звальненьне са службы чужаземцаў.

Літоўскі міністар жалезных дарог выдаў загад аб звальненьні са службы усіх жалезнадарожнікаў — чужаземцаў. Вынятак можа быць дапушчаны толькі для бязумоўна неабходных спэцыялістаў, якія могуць быць пазастаўляны на службе звыш штату.

ЭСТОНІЯ.

## Эстонска-радавыя гандлёвыя перагаворы.

На апошнім паседжаньні эстонскай рады міністраў міністар замежных справаў Рэбане ўнес праэкт аб стварэньні спэцыяльнай камісіі для перагавораў з Радаваю Расеяй аб заключэньні гандлёвага трактату.

С. С. Р. Р.

## Барацьба з прыватным гандлем.

У Маскве распачаўся суд над урадам Т-ва Узаемнага Крэдыту. Акт абвінавачаньня ставіць у віну Т-ву „сьвядомае падтрыманьне інтарэсаў прыватнага капіталу на шкоду для дзяржаўнае гаспадаркі“. На лаве абвінавачаных сядзіць 42 асобы, сярод якіх урад т-ва у поўным складзе, роўным чынам служачыя камісарыяту скарбу і дзяржаўнага банку. Усе абвінавачваюцца у „гаспадарчай контр-рэвалюцыі“.

## Масавы выязд немцаў з Расеі.

У зьвязку з арыштам нямецкіх інжэнэраў і тэхнікаў у Данецкім басэйні ў апошнія дні заўважаны масавы выязд немцаў з Расеі да Нямеччыны праз Стоўпцы.

## Арышт бальшавікамі Чэхаў.

Чэскія газэты паведамляюць з Масквы, што ў апошні час у Расеі было арыштавана некалькі сябраў ураду чэха славацкіх гаспадарчых суполак, заданьнем якіх была дастаўка чэхаславацкім колёністам земляробных машынаў. Апрача гэтага выселяна з Расеі 25 чэскіх грамадзянаў бэз паданьня матываў.

УСХ. БЕЛАРУСЬ.

## Сялянскія непарадкі.

Страшэнны падаткавы ўціск вясковага насельніцтва давёў вёску да роспачы, нават чыннага протэсту. Нават савецкая прэса не хавае гэтага. „Зьвязда“ ад 18 сакавіка падае, што у некатарых вёсках асабліва у аршанскім павеці „кулакі“ зрываюць гміінныя сабраньні і чынна выступаюць проці закону аб самаападаткаваньні насяленьня, як напр. у в. Аляхновічах і Кораве. У Кораве сяляне разагналі сабраньне, якое павінна было акрэсьліць разьмер рольнай пазычкі, зьніштожылі пратакол і разграмілі памешканьне.

Паважнейшы характар мелі непарадкі ў в. Хомічах Мазырскага пав. Узбунтаваўшыя сяляне вывалаклі камуніста Пятра Гарбача, які маніўся правясьці ўхвалу аб самаападаткаваньні, за вёску і там забілі яго кіямі на сьмерць. Да ўзбунтаваўшых вёсак высланы карацельныя экспэдыцыі.

## Пажар вёскі

У ночы з 16 на 17 сакавіка згарэла в. Ячпэ Стаўпецкага павету. Згарэла 95 будынкаў з інвэнтаром. Страты вялікія.

# Сярод газэтаў.

Вынікі выбараў да Сойму і сэнату усё яшчэ прадаўжаюць служыць тэмаю для газэтаў усіх напрамкаў. Падводзячы ітогі выбараў, „Бел. Дзень“ (№ 10) піша:

> Факт разгрому эндэцыі беларусы прынялі з вялікім здаволеньнем.
>
> Толькі дзякуючы працы гэтых паноў, дасюль нацыянальныя дамаганьні беларускага народу ня толькі не знайшлі справядлівай разьвязкі, але наагул ніколі ня былі пастаўлены на парадак дня. Дзякуючы працы гэтых паноў, каторыя не хацелі прызнаваць у Польшчы нават існаваньня беларусаў, стварыліся паміж гэтымі двума народамі тыя ненармальныя адносіны, якія былі аднэй з прычынаў узросту і разьвіцьця Грамады; толькі дзякуючы ім не знайшла належнай разьвязкі справа беларускай школы; толькі дзякуючы ім імя „беларус“ у вушох часткі польскага грамадзянства зычэла, як імя ворага польскага народу. Дзеля гэтага, прымаючы з вялікім здаволеньнем факт разгрому эндэцыі, мы адначасна з вялікім здаваленьнем прымем і трыумф польскай дзяржаўнай думкі, бо у межах гэнай думкі мы у гэтым глыбока пераконаны, ня могуць не знайсьці справядлівай разьвязкі нацыянальныя дамаганьні беларускага народу ў галіне культурнай, гаспадарчай і палітычнай ...

Толькі Грамадоўская „Воля Працы“ ня можа абыйсьціся без дэмагогіі. У артыкуле „Мы Маўчым“ яна піша: —

> Выбары былі маўчалівымі. Ніхто ня чуў слова, свайго шчырага слова, слова парады, паказу ... Ні газэт, ні афіш, ні людзей ...

Калі не давалася ходу грамадаўскім газэтам, афішам дый людзям, дык гэта яшчэ ня значыць, што ніхто ня чуў свайго шчырага слова. Чамусь-та толькі Грамада лічыць сябе паваланай да павадырства беларускім народам і цэніць на вагу золата свае словы, абязцэньваючы словы „інакш мысьлячых“.

Але, здаецца, зусім другога пагляду на гэтае беларускія масы, якія на выбарах занялі зусім выразную пазыцыю аднosна Грамады. І што „Воля Працы“, ці „Сіла Працы“ маўчалі, дык беларускі Народ на гэтым мала страціў. Прынамся менш латваверных на Лукішкі папала...

Мы маўчым. Усё ж, прыймаючы пад увагу усе абставіны, пераможаным сябе ня лічым.

Лепшым адказам на тое, хто выйшаў пераможцам, ці пераможаным, зьяўляюцца лічбавыя вынікі выбараў, якіх не затушуеце ніякай дэмагогіяй...

## Гаспадарчы аддзел.

### Апека Ураду над нашым краем.

На ўрачыстасьцях імянін Маршалка Пілсудзкага ў Вільні быў прысутным міністар ральніцтва п. Незабытоўскі, які у гутарцы з прадстаўніком газ. „Słowa“ між іншым сказаў:

Урад асаблівую увагу зьвяртае на Усходнія Землі. У пляне руплівых заданьняў стаіць падняцьце прадукцыі льну на гэтых землях, як вельмі паважнай галіны мейсцовай сельскай гаспадаркі. Па гэтаму пытаньню адбудзецца канфэрэнцыя ў Віленскім Аддзяленьні Рольнага Банку.

Затым будуць павялічаны каротка-тэрміновыя зямельныя крэдыты. Рольны Банк выдаў на гэтую мэту 50 міл. зл. з вызначаных для гэтага 80 міл. зл. Кароткатэрміновыя пазыкі прадоўжаны з 3 мес. да 6 і урад мае замяр прадоўжыць гэты тэрмін да 1 году. Віленскі аддзел Рольнага Банку паволі павялічыў крэдыт з 150.000 зл. у 1926 г. да 2½ міл. зл.

Затым урад зьвяртае асаблівую увагу на каапэрацыю ў гэтым крае, якая значна адстае ў параўнаньні з заходнімі землямі Дзяржавы. Нарэшце п. міністар указаў на справу асушкі Палесься і будову новых жалезных дарог, якая ідзе шпаркім крокам уперад.

### Дэкрэт аб самаўрадавых суполках.

У хуткім часе будзе зацьверджаны Радаю Міністраў і апублікаваны ў „Dzienniku Ustaw“ у формі загаду Прэзыдэнта Рэспублікі дэкрэт аб самаўрадавых суполках. Дэкрэт гэты дазваляе паасобным гмінным, павятовым і местовым урадам уваходзіць у супалкі з мэтаю правядзеньня супольных заданьняў ці будоўлі, перавышаючых сілы паасобных гмінаў, паветаў і местаў. Дэкрэт гэты адыграе паважную ролю у будоўлі мастоў, школаў, шпіталяў і г. д.

### Прыезд англійскіх лясных купцоў.

У хуткім часе прыедуць да Вільні некалькі прадстаўнікоў буйных англійскіх лясных прадпрыемстваў з мэтаю азнаямленьня з тутэйшым лясным рынкам, роўным чынам з варункамі экспарту дзерава. З Вільні яны паедуць да Рыгі, а затым да Коўны, дзе будуць вызучываць варункі сплаву лесу па Нёману да Клайпэды.

### Пераварот ў рольніцтве.

Адным з чарговых пытаньняў у Нямеччыне, Англіі і Італіі у сучасны мамэнт зьяўляецца „перасадка збожжа“. Шмат дзе ў Нямеччыне ужо праводзіліся вопыты па пасадцы збожжа, даўшыя дасканалыя вынікі. Збожжа ня сеюць на пашні, а садзяць на маленкіх градках.

Пасьля таго як семя дало расток, расток гэты машынай перасаджваецца на поле. Перасаджваюць гэтак, каб зярнё знаходзілася пад зямлёю на глыбіні 5 сант. З аднаго зерня потым вырастае ад 25 да 35 каласоў. Перасаджваюць у залежнасьці ад глебавых умоў — ад 10 да 20 расткоў на квадратны мэтр. Пры такой пасадцы збажына родзіць у некалькі разоў больш.

Перасадкай ня толькі дасягаецца вялікая эканомія насеньня (пры засеве рукою на адзін квадратовы мэтр прыпадае каля 50 зярнят), але пасеў захоўваецца ад марозаў і навальніцы.

У мінулым годзе ў Намеччыне усюды загінуў ад непагоды адзін з лепшых гатункаў пшаніцы, і толькі дзякуючы перасадцы на адным з вопытных палёў удалася захаваць гэты гатунак.

## ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

— **Імяніны Маршалка Пілсудзкага.** 19 сакавіка Вільня ўрачыста адсьвяткавала імяніны Маршалка Пілсудзкага. Дзяржаўныя будынкі былі упекняны зеляньню. Вечарам 18 і 19 места было ілюмінавана штучнымі агнямі. 19 адбылася на катэдральным пляцу палявое набажэнства, а затым ваенны парад, на якім былі прысутнымі вышэйшыя прадстаўнікі улады. Школы у гэты дзень былі зачыняны.

— **З „Прасьветы“.** Некатарыя Старшыні Гурткоў „Прасьветы“ пытаюцца у нас, што будзе у далейшым з „Прасьветай“. Дык па маючым у нас чуткам можам адказаць, што па пэўным часе мае наступіць рэарганізацыя усіх гурткоў „Прасьветы“ паводле статуту. А дзеля таго, што і поўнамоцтва цэнтру ўжо закончыліся, дык будуць і перавыбары Цэнтральнай Рады.

Што жа датычыць падтрыманьня адчыняных бібліятэк-чытальняў, дык яно не спыняецца. Газэты высылаюцца і па магчымасьці бібліятэкі будуць асьвяжацца і павялічвацца.

— **Інспэкцыя гурткоў „Прасьветы“.** Пан Тодар Вернікоўскі выехаў ў справах культурна-асьвятовых 20 сакавіка у паветы Маладэчанскі і Вялейскі,

каб на мейсцу высьвятліць і урэгуляваць некаторыя бягучыя і балючыя пытаньні.

— **„Беларускі Радны“**. На будучым тыдні выйдзе чарговы нумар (№ 4) „Беларускага Раднага“. Рэдакцыя „Бел. Раднага“ просіць нас паведаміць, што часопісь будзе высылацца толькі платным падпісчыкам і бязплатна толькі сябрам самаўрадавага камітэту.

— **„Дом Беларускай Культуры“**. Як нас паведамляюць, нядаўна стварыўся Часовы Урад Бел. Навуковага Т-ва ў складае — п. Трэпкі, Р. Зянкевіча, С. Пауловіча, б. сэн. Уласава, І. Савіцкага і д-ра Дварчаніна, які на апошнім сваем паседжаньні ўхваліў адчыніць збор ахвяраў на гэтак зв. „Дом Беларускае Культуры“.

— **Беларусізацыя праваслаўнай сэмінарыі**. Пачынаючы з наступнага вучэбнага году будзе праведзена беларусізацыя праваслаўнай духоўнай сэмінарыі у Вільні. Рэктарам сэмінарыі будзе беларус.

— **Звальненьне з арышту Яраміча**. Пасол Яраміч, арыштаваны каля 3-х тыдняў назад, быў звольняны у нядзелю 18 сакавіка з пад арышту.

— **Замардаваньне Гурына**. У пятніцу а 11 г. вечара наЯгэлёнскай вуліцы быў замардаваны адзін з галоўных сьведкаў абвінавачаньня ў працэсе Грамады М Гурын. Забойца выстрэліў да Гурына на вуліцы. Раняны Гурын забег ў суседнюю кавярню, каб схавацца. Але забойца убег за ім да кавярні і там трыма выстраламі з рэвальвэру ў гала ву палажыў яго на месьці.

Пачуўшы выстралы, прыбег на мейсца выпадку стоячы недалёка паліцыянт. Забойца выстраліў два разы да паліцыянта, але не папаў і кінуўся уцякаць. На рагу Гданьскай і Віленскай вул. ён быў схопляны і арыштаваны.

Тойчас на мейсца выпадку прыбылі Староста Гродзкі п. Ішора і пракурор Раузэ, судзебны сьледавацель, прадстаўнікі палітычнае паліцыі, фатограф і г. д. Забойца пасаджаны ў сьледственную турму.

Гурын у свой час прыбыў з Менску да Польшчы як дэлегат III інтэрнацыяналу, але быў арыштаваны польскімі уладамі і асуджаны судом на 2 г. катаржнай турмы у Гародні.

Пасьля адбыцьця кары Гурын выйшаў на волю і зноў заняўся канспірацыйнаю працаю паводле інструкцыяў камінтэрну.

Але з часам ён пераканаўся, што бальшавікі зьяўляюцца найвялікшымі ворагамі незалежнасьці Зах. Беларусі, выйшаў з камуністычнае партыі і выдаў уладам некатарых з сваіх быўшых таварышаў. За гэтую зьмену партыі камуністыя ужо раз стралялі ў яго у Беластоку, але толькі ранілі.

У працэсе Гурын павінен быў даваць паказаньні ў красавіку. Яго паказаньні як быўшага грамадоўца, мелі вельмі вялікую вагу. Дзеля гэтага, зразумела, важна было для тых, хто хоча унявініць Грамаду, каб пазбавіпца Гурына, як найпаважнейшага сьведкі. Але невядома, ці пойдзе гэтае забойства Гурына га карысьць падсудзімым.

# Карэспандэнцыі.

## Покліч з вёскі.

*(Жасьнянская вол. Пастаўскі пав.).*

Дарагія сябры! Каму на сэрцы ляжыць дабро нашай многопакутнай бацькаўшчыны Беларусі, то паслухайце

## Хворы леў і асёл.

*(З баек Крылова).*

Адкулечка разумная брыдзеш ты галава?
Сь аткаўшы нек асла ліса спытала.
— Ды вось вяртаюся ад льва.
Ну, кумачка, для нашага сьвірэпнага цара
Прышла паскудная пара:
Стары цар — леў —
Відаць сьмяртэльна захварэў:
Уся моц яго ужо прапала,
Ляжыць у яме бы калода
І між зьвярынага народа —
Ужо няма яму увагі ні пачота,
Рабі з ім кожны, што каму ахвота!
Падумаеш: нядаўна так яшчэ было —
Прад ім траслося, што жыло.
Рыкне — дык зараз хто куды
Уцякаюць зьверы поўныя жуды.
Хаваюцца усе, каб не папасьць на вочы...
А сяньня вось, зусім ня тое:
Леў стаў-бы дзіцянё малое.
І з самай раніцы да ночы
Вакол яго натоўп, вазьня,
Усе зьверы тут, ідзе грызьня
Затое, каб бліжэй прабрацца
За ўсё старое расквітацца.
Адзін — пырне у бок рагамі,
Той зубом ірване, а хто капне нагамі...
— Ну, ты-ж напэўне льву ня сьмеў
Капытамі сваімі дацца у знакі?
— А што, я горш ад іншых, ці мо' леў
Чакаць меў ад мяне падзякі?
Праўда, я перадусім
Стараўся не спаткацца з ім.
Аднак хоць з ім і не сустрэўся,
Дык страху шмат і я наеўся!
Жарты — гэткі страшны зьвер!
Дык як-жа хочаш, каб цяпер,
Калі бяз сілы ён застаўся
І я за страх з ім не сквітаўся?
Само сабой, наколькі мог
Пазнаць яму даў сілу ног;
І брыкануў падыйшоўшы скрыта:
Хай ведае асьлінае капыта!

*Б. Друцкі.*

мяне, як прадстаўніка інтэлігэнцыі вясковай моладзі. Зірнуўшы па абшары нашага краю, кожны можа зауважыць, што сілы нашы павялічваюцца, а з гэтым павялічэньнем павялічваецца і барацьба за істнаваньне. Расьце ў нас моладзь, а з ею расьце надзея на лепшую будучыню.

Але мы мусім мімавольна застанавіцца і паглядзець, якую ролю ў нашым цяперашнім быце гуляе моладзь, і ці можа яна апраўдаць нашыя надзеі, якія на яе накладаюць. Безумоўна кожны зырчэйшы і сьведамейшы грамадзянін назаве нашу надзею парожным гукам. А думку аб нашым адраджэньні і вызваленьні яшчэ трэба пакінуць у спакоі на некалькі дзесяткаў гадоў, калі-б задаволіцца цяперашняй падгатоўкай моладзі да будучай працы.

Моладзь наша ня мае ніякага выхаваньня і не разумее зусім патрэбы грамадзкага абавязку. Грамадзкай працай цікавіцца яна як найменш.

Калі мы заўважылі, што рады моладзі стала павялічваюцца, а зацікаўленасьць грамадзкай працай зьменшаецца, дык яўна нам стане, што вызваленьне наша будзе толькі гучным лёзунгам на паперы. Каб не дапусьціць да гэтага, мусяць паклапаціцца аб падгатоўцы і добрым усьведамленьні моладзі нашыя бацькі сяляне.

Дзеля гэтага ў кожнай нашай вёсцы павінна паўстаці такая арганізацыя, якая-б усьведамляла нашу моладзь, якая-б узахваціла яе да грамадзкай працы. А такой арганізацыяй зьяўляецца культурна-прасьветнае Т-ва „Прасьветы“.

Дык, сябры, вясковыя інтэлігэнты і наагул сьведамы элемэнт грамадзянства! Мы павінны выканаць свой сьвяты абавязак. Кожны з нас павінен паруціпца аб залажэньні і падтрыманьні „Прасьветы“. Мы толькі тагды зможам вызваліцца сацыяльна і нацыянальна, калі вызвалімся культурна і станем на роўным роўні з іншымі цывілізаванымі народамі.

*Вясковы.*

# Працэс Грамады.

## (Агульнае ўражэньне з салі суда).

Працэс над „Грамадоўцамі“ ідзе далей і канца быццам ня відаць.

Даволі вялікая саля паседжаньняў амаль што пустуе. Апрача 56 абвінавачаных, 13 іхніх абаронцаў, двух прадстаўнікоў прэсы толькі жонкі падсудных ды іхнія крэўныя сядзяць на мейсцах для публікі.

Увaход у салю па асобным білетам, якія спраўджаюцца пры ўваходзе паліцыяй.

За вялікім судзейскім сталом, які стаіць упоперак усёй салі, сідзяць 5 судзьдзяў, 2 пракуроры і 2 сэкрэтары. Правы бок салі, дзе сядзяць падсудныя, якружаны паліцыяй. Сярод падсудных — асобы рознага веку, больш веку сярэдняга. Есьць паміж імі і адна кабета. Галоўныя абвінавачаныя сядзяць на ўзвышшу: першым Тарашкевіч, пасьля Рак Міхайлоўскі, Валошын, Мятла і Астроўскі. Рэшта падсудных сядзяць ніжэй іх на звычайных лаўках. Кідаецца ў вочы фігура сьвяшч. Каўша — ў расе з крыжам і Акінчыца у цёмных вакулярах. Усе падсудныя, хоць і відаць на іхніх тварах перазмарэньне, але выглядаюць ня надта кепска. Праўда ня голяныя і блядыя, але-ж больш гадавы вастрожны рэжым мусіць налажыць сваю адзнаку. Адзіная сярод іх кабета выглядае нават добра. Антон Луцкевіч гэтак сама выглядае ня кепска. Горэй ад іншых выглядаюць Астроўскі і Валошын.

Абронцы на вышыне свайго фаху. Ніводны сьведка абвінавачаньня галаслоўем не адрабляецца і пасьля крыжавых запытаньняў абронцаў выходзіць як з лазьні, клянучы напэўна сябе, што сунуўся у гэтаю справу.

За рэпорцёрскім сталом ад беларусаў відаць заўсёды прадстаўнікі ад „грамадоўскай“ газэты і эсэра Мамоньку. Часам сядзяць прадстаўнікі ад „Сялянскай Нівы“ і „Грамадзяніна“.

Кожны дзень працэс пачынаецца ад 9 раніцы да 9 вечара, з перарывам на абед.

Падсудныя абедаюць тамака ў памешканьні Суда.

Настрой у іх супакойны. На судзе трымаюцца вольна і рэчова бароняць сябе. Некатарыя бароняцца ў польскай мове.

*Г. К.*

# Навука і тэхніка.

## Тэмпэратура ў 6,000 градусаў.

У Рэулі (Эстонія) акадэміку Палешчуку ўдалося вытварыць тэмпэратуру ў 6 000 градусаў. Гэткая тэмпэратура да гэтай пары была недасягаемая. Для дасяжэньня гэткай тэмпэратуры патрэбавалася выканаць шмат досьледаў, аб якіх да гэтай пары ня ведалі. Пакуль вядома, што жалеза пры гэтай тэмпэратуры ня топіцца, а проста пераходзіць у пару; вада — гарыць; паветра з выбухам пераходзіць у другі стан, пры гэтым сьценкі начыньня правальваюцца ўнутро.

Усё гэтае наводзіць на цэлы рад развражаньняў. Есьць магчымасьць стварыць гэткую сьвяцільню, што калі яе палажыць у вадзе, дык будзе даваць полымя, як у звычайнай нафтавай ці сьпіртусавай лямпе. Затым адчыняецца магчымасьць растапіць такія рэчы, якіх да гэтай пары не ўдавалася растапіць. Гэтае адчыняе вялізарныя магчымасьці для прамысловасьці.

## Дрэва з саломы.

Вядомы амэрыканскі Хімік Сідней Уэльс, які шмат гадоў працуе над пытаньнем, як можна скарыстаць арганічныя рэшткі прадуктаў сельскай гаспадаркі, выкрыў новы хімічны працэс. Уэльс заняўся спэцыяльна вывучэньнем саломы наагул і у прыватнасьці саломы пшаніцы, ячменю і кукурузы. Ен знайшоў, што найбольш значная частка саломы аднолькавая з драўнінай. Розьнымі хіміка-механічнымі працэсамі уэльсу ўдалося зрабіць з саломы бэлькі і дошкі, такія-ж моцныя як з самай моцнай драўніны. Ен даводзіць, што гэтыя вопыты маюць ня толькі лябараторны характар, але могуць быць наладжаны ў шырокім фабрычным маштабе.

## Самы доўгі мост на сьвеце.

У Нямеччыне будзе будавацца самы доўгі мост на сьвеце ад гораду Штральзунду да выспы Ругэк, у Балтыцкім моры. Даўжыня мосту — 8 кілёмэтраў, вышыня — 30 мэтраў.

## КУТОК ЖАРТАЎ і СЬМЕХУ.

### ЗАГАДЫ КАНАЮЧАГА.

— Канаў стары Мікалай. Перад самаю сьмерцю зьвяртаецца да жонкі, каб даць ей апошнія загады аб справах маемасьці:

— Не забудзь - кажа — пазыскаць доуг ад Базыля 25 злотых.

— Паслухайце, даражэнькія суседзі, — адклікнулася жонка, — які ён прытомны, як усё прадбачыць і аб усім помніць...

— Затым не забудзь—кажа далей канаючы, — што старому Мацею мы вінаваты 50 злотых!

— Небарака Мікалай! Зноў у гарачцы, — адказвае смутная жонка...

**Правідловы дігноз...**

— Што з панам?—пытаецца спаткаўшы на вуліцы знаёмы доктара — вы вельмі блага выглядаеце?

—Можна зварʼяваць,—адказвае доктар — нядаўна лячыў аднаго хворага ад жоўтухі, а цяпер аказваецца, што гэта быў кітаяц

## Юрыдычныя парады.

**Грамадз. Альжбета М.** *Запытаньне*: 25 год таму назад я вый шла замуж. Пры бацькох на гаспадарцы засталася другая сястра, якая прыняла да сябе прымака. У 1915 годзе сястра з мужам выехала у Расею. Там муж яе памёр, а што з сястрой і дзе яна — няма ведама. Тымчасам зямлю сястры забрала гміна і аддае у арэнду суседу. Я зʼяўляюся адзінай найбліжэйшай крэўнай сястры Ці магу я атрымаць яе зямлю і як?

*Адказ*: Дастаньце з гміны пасьведчаньне, што вы адзіная найбліжэйшая крэўная, што сястра мела зямлю, якая за адсутнасьцю сястры, узята гмінай і падайце з гэтымі пасьведчаньнямі прозьбу у Акружны Суд аб вызначэньні вас куратаркай над маемасьцяй бязвестна адсутнай сястры і аб перадачы вам гэтае маемасьці ў апякунскае ўладаньне.

**Грам. Гр. — лю.** *Запытаньне 1-е*: матка адсудзіла сваей бацькаўшчыны 16 дзесяцін. Мела яна 5 дзяцей: 3 сына і 2 дачкі. У 1908 г. жаніла старшага сына У 1913 г. жаніла другога; у 1916 г. выдала адну дачку. У 1919 г аддзяліла сына, які жаніўся у 1913 г. У 1925 г. дала незамужняй дачцэ 4 дзес. зямлі і канец хлява. Опісаў ніякіх ня было зроблена. Ці мае дачка гэтая права прадаць атрыманную зямлю і канец хлева?

*Адказ*: Для прадажы трэ' мець дакументы, сьцьвярджаючыя права уласнасьці. Калі выдзел зроблен з існуючым у вас звычаем і выдзеляная часьць запісана у валасьці на дачку, дык можна, атрымаўшы з валасьці пасьведчаньне аб прыналежнасьці зямлі, прадаць, калі-ж не запісана — нельга.

*Запытаньне 2-е.* Сямья складалася з 5 чалавек: 3 братоў і 2 сястёр Браты усе ў Расеі. Малодшая сястра замужам ад 1916 г. Старшая жыве на гаспадарцы. 1926 г. старшая была страшэнна хворая. Малодшая павяла яе да доктара і зрабіла ад яе імя нейкую опісь. У часе, як рабілі гэтую опісь, яна была без памяці Ці можа старшая зламіць гэтую опісь і як?

*Адказ*: Цікава, як і якая іменна опісь была зроблена? Ува ўсякім выпадку — зламіць можна. Але без суда не абыйсьціся. Трэба падаць прозьбу (powództwo) аб прызнаньні няважнай зробленай опісі

## Паштовая скрынка.

Канароўскі М. — Клецк, Мороз Вячэслаў, — Новоельня, Дець Язэп, — Слонім Шыляк Я. — в. Сеньціново, Хадыненко — х. Століца, Тыско — в. Тарасовіче, Грыга Якуб — в. Поддубʼе, Окульскі Баз. — в. Слободка, Турые Язэп — в. Завадзічэ, Улейчык Грыгор — в. М. Бжостовічэ, Макалевіч С. — Вяловэж, Мармазэвіч М. — в. Денізковічэ, Ракоў С — в. Богры Турэц, Жыліч Шымон — в. Дрыпово, Каспровіч М.—в. Антанувка, Давыдзік Ілья — в Дубічэ, Мартысенко В. — в. Бычкоўшчына, Шэйбак Ян — в. Варакоўшчызна, Кот Мікалай — в. Голынь, Кур,янко В. — пот. Турэц, Мацько Тум — в. Броносово, Рудзінскі — в. Руднікі, Шчэбят Т. — м. Долгіново, Гулько А. — м. Іказнь, Юшкевіч — п. Городышчэ, Мацюлевіч Я. — м. Лебедзево, Врылевіч Іг — в. Насоўка, Драб Александар — в. Лыравічы,— газэта высылаецца.

Д. Дубіна — 2 зл. атрыманы, газэта высылаецца.



Адказны Рэдактар — Выдавец Тодар Верніноўскі Druk Bajewskiego Wilno.